Hod VIII. Krasavik 1936 h. № 4.

# Шлях Моладзі
# Šlach Moładzi

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."

ЯНКА КУПАЛА.



VILNIA

Biełaruskaja Drukarnia im. Franciška Skaryny — Vilnia, Zavalnaja vul. 1—2.

ЗЬМЕСТ № 4:



## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — А, а. | J, j — Й, й. | R, r — Р, р. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — С, с. |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — Е, е. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю. | Š, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — К, к | T, t — Т, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — М, м. | W, w, V, v — В, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — Н, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — Х, х. | O, o — О, о. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I i — I, i. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |

„Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Складка на 1 месяц 30 гр.; на 3 месяцы 50 гр., на паўгода — 1 зл., на год — 2 зл.

Заграніцу — ўдвая даражэй.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная № 1—2

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год VIII. | Вільня, Красавік 1936 г. | № 4 (90). |
| --- | --- | --- |

**Міхась Машара**

* * *

(Верш чытаны аўтарам на літ.-веч. 15.III.36).

Засінела даль прастораў.
Мора сонца на палёх.
Зноў кіпіць мой верш задорам,
Зноў бурліць жыцьцё ў грудзёх.

Веснаходу адраджэньня,
Шум разгульны вецярка
І бунтарнае браджэньне
Першых песьняў жаўрука.

Заклікаць вясну у поле
Заўтра раніцай пайду;
Песьню радасьці і волі
У жаўронка украду.

Панясу яе ў далонях
Над разбуджанай зямлёй,
Веснашумаў перазвоны
Палятуць у сьлед за мной.

Гэй, вы сумныя вяскоўцы,
Выхадзіце з хат усе —
Хутка мы па ўсей старонцы
Засьпяваем гімн вясьне.

**А. Бярозка**

* * *

Парвалась струна...
Замоўкла звонкая ліра...
А калісьці зьвінелі на ёй
Гімны сонцу...
Красавала вясна,
Плылі песьні...
Замоўкла ліра...

Разьбілася сэрца...
А калісьці надзеі снавалі яму
Шчасьця ніці...
Яно верыла ў праўду, дабро і красу...

Маўчаць парваныя струны —
Маўчыць разьбітае сэрца. 1935.

**Максім Танк**

## „І песьні і сонца...“

Ці поле заносяць сьнягамі мяцелі,
ці неба вясною зазвоніць, як медзь;
бярозы зялёны свой шоўк раскудзеляць,
ці верас пачне шэрай восеньню тлець. —

Ідзеш ты, мой браце, з торбай на плечах,
навуку мазольна сабе здабываць.
І ногі змарыліся, жвірам калечыць,
і вочы расьцьвіўшыя сумна глядзяць.

І лапці твае, растапталіся лапці;
кашуля-дзяруга, сярмяжка із лат.
Ты ў школе работнік і дома шмат працы...
Ну што-ж ты задумаўся, брат?

Ня можыш мо' сьцяміць, што мовай няроднай
гаворыць табе пра чужое жыцьцё —
ня шумам бяроз і палосак гаротных,
ня матчынай песьняй, ня песьняй касцоў?

А так-бы хацеў ты убачыць сьвет новы,
людзей, як і сам, і іх думы пазнаць,
а вырасшы: плугам цяжкім і сталёвым
пад новы засеў сваю ніву ўзараць.

Што-ж стаў і задумаўся, мілы мой браце?
Жыцьцё будаваць, эх, пара ўжо пара!
Ня раз мо', змарыўшыся, кроўю заплачам,
але з гэтых сьлёз загарыцца зара.

І ўбачыш свой край ты яшчэ у сьвітаньні,
у шолаху ціхім усходніх зарніц.
Ты мусіш змагацца, а ў гэтым змаганьні,
і песьні, і сонца, і волю здабыць.

**С. Хмара**

## Не кажы

Не кажы ты мне, што закрасавалі рожы ў нашым саду,
што даўно ўжо бязьлітасны сьцяў іх мароз;
Што ўжо сонца касуляў сваіх залатых на ваду,
на ручай з серабра не кладзе сярод лоз.
Не кажы, што мароз свае краскі на вокнах малюе.
Што ў абоймах зімы сьвет усенькі дрыжыць,
і што сьмерць ў цэлым сьвеце ўсеўладна пануе...
Не кажы, — беспрабудна ўсё сьпіць!
Знаю я, ажыве! ажыве хутка ўсё, ачуняе,
Як надыйдзе цёплы дзень вясны,
і сьнягі паплывуць...
Ярка сонца на небе зазьяе...
І скончацца страшныя сны!

# Pieśnia viasny

Idzie viasna, idzie... Piajuć viesieła žaŭranki-źviastuny... Pa sumnaj zimovaj nočy, sonca raniej uschodzie i budzić uvieś śviet da žyćcia. Rečki i vaziory lustram zichaciać i z šumam honiać za chvałaj chvału.

Idzie viasna, hamonić Nioman... Idzie viasna, šepčuć zialonyja łazovyja kusty... Idzie karaleŭna adradžeńnia...

Pachnuć zialonyja vianki i girlandy. Syplucca roznakalornyja kvietki na ziamlu. Latuć busły i dzikija husi viernyja tavaryšy viasny. Lacić źvinnaja łastaŭka i novyja vieści niasie. A sałaviej-lirnik piaje pieśni viaśnie. Pieśni žyćcia, pieśni vyzvaleńnia. A z pieśniaŭ hetych rodzicca čyn — žyćcio...



Zahutaryli radasna čornyja bary — viaśnie pakłanilisia i zašaptali. Zakałychalisia pali i, zdajecca, zadryžali, kab adkinuć zimovuju ciažaść — zimovuju pleśń, i addychnuli svabodnym uzdycham, kličučy artajoŭ da siaŭby novaha žyćcia.

I zakipieła praca na poli... Žaŭranak-piaśniar cicha zvonić svaju malitvu pad brylantam nieba, a łuhi krasujucca milijonami zoračak-kvietak. Ihrajuć farby, faluje hustaja trava.

Idzie viasna, kipić žyćcio i da Praŭdy imkniecca..

Idzie viasna, burlić u sercy Biełarusa mahutnym čynam pieśnia adradžeńnia. Vyjšli ŭžo siaŭcy i siejuć ziarniaty novaha zmahańnia — novaha žyćcia — ŭ čornuju rallu Baćkaŭščyny, i raście ŭžo novy čyn!.. Idzie viasna, falujuć hrudzi, źvinić pieśnia — ŭskrašeńnia, słavy, svabody...

V. P.

# Jak pracuje siarod biełaruskaj moładzi „Związek Młodej Wsi."

„Związek Młodej Wsi", jak my ŭžo niaraz pisali, heta polskaja arhanizacyja, jakaja pamiž inšym starajecca raźvivać svaju dziejnaść siarod biełaruskaje, a tak-ža litoŭskaje i ukrainskaje moładzi. Mety dziejnaści hetaje arhanizacyi siarod našaje moładzi vyrazna polonizacyjnyja i hetaha nia treba jšče adzin lišni raz dakazvać. Padtrymlivajuć heny „Związek" pierad usim ułady, polskija vučyciali, „Związek Osadników" i inšyja polskija arhanizacyi. Kab praca „Związku Młodej Wsi" (a raniej „Związku Młodzieży Wiejskiej Ziemi Wileńskiej") jšła i raźvivałasia, ad niekalkich užo hadoŭ pry pomačy „Związku Osadników" u Vilni zimoj byli arhanizavanyja hetak zvanyja „Kursy społeczno-oświatowe przodowników", na katoryja polskija asadniki i vučyciali prysyłali našu viaskovuju moładź, jakuju tut staralisia napichać polščynaj i adpaviedna pryhataŭlać da „pracy". Sioleta hetyja kursy, dziela dadańnia im bolšaj pavahi, pierajmienavali ŭžo navat na „Wiejski Uniwersytet Ludowy".

Lohka chiba kožnamu zrazumieć, što ŭspomnienyja kursy i „universytet" źjaŭlajucca hałoŭnym štabam „Zw. Mł. W.", u jakim uzhadoŭvalisia pavadyry — „przodownicy" viaskovych addziełaŭ hetaje arhanizacyi.

Voś-ža ad henaha štabu i pačniom my svoj karotki ahlad pracy nazvanaj vyšej arhanizacyi.

Pierad usim treba skazać, što jak kursy, tak i sioleta „universytet", dziela taho što za „navuku" na ich i charčavańnie płaty badaj zusim nia trebavali (ŭsiaho 5 zł. u miesiac), kandydataŭ mieli davoli, — bo achvotnikaŭ pabyvać u Vilni nie brakuje. Treba adnak zaznačyć, što kiraŭnictva kursaŭ i „universytetu" zaŭsiody mieła z imi vielmi mnoha kłopataŭ, bo papadali da ich i śviedamyja biełarusy, katoryja nia tolki nie chacieli słuchać ichniaj „ahithramaty", ale siarod svaich kalehaŭ pravodzili ŭśviedamlenčuju biełaruskuju pracu.

Sioleta „navuka" na „Wiejskim Uniwersytecie Ludowym" adbyvałasia davoli spakojna. Usich-ža słuchačoŭ było kala 30. I voś zbližaŭsia ŭžo kaniec kursu. Zadavolenyja z svaje pracy, kiraŭniki pryhataŭlalisia da zakančeńnia jaje. Adbyłosia jano vielmi ŭračysta 4.IV pry vialikim liku zaprošanych haściej. Paśviedčańni ab skančeńni kursu razdavaŭ słuchačom prysutny vil. vajavoda Bacianski. Sypalisia haračyja pramovy ab „misjach kulturalnych", ciešylisia kiraŭniki ZMW i zdavałasia im, što ŭsio budzie dobra.

U toj adnak mament u sercach maładych biełarusaŭ radziŭsia bunt. U dušach ich adazvałasia svajo biełaruskaje nacyjanalnaje pačućcio, svajo hordaje ja i stałasia reč niečakanaja. Na zaŭtra rana 5.IV, blizu pałova słuchačoŭ z paśviedčańniami atrymanymi ad vajavody źjaviłasia da kiraŭnika „uni-

versytetu“ i z słovami: — „My nie „przodownicy“ i nam hetyja paśviedčańni nie patrebnyja“ źviarnuła ich nazad, dy raźjechałasia — kožny ŭ svaju viosku, — pakidajučy „svaich“ vučycialoŭ pry raźbitym karycie...

Tak zakončyŭsia sioletni kursu „WUL“.

Mała lepšyja vyniki daŭ sioletni i źjezd „przodowników“ ZMW, jaki adbyŭsia ŭ Vilni taksama 4.IV.

Na źjezd heny było zaprošana kala 200 asob, usie jany mieli na čyhuncy vializarnyja źnižki, u Vilniu adnak źjaviłasia tolki štoś kala 40 čałaviek i tyja dali sapraŭdy haniebnaje paśviedčańnie ab pracy „Związku Młodej Wsi“ siarod biełaruskaje moładzi. Kab nia być hałasłoŭnym, pryviadziom tut niekatoryja ŭryŭki z pramovaŭ skazanych na źjeździe hałoŭnymi machierami hetaj arhanizacyi.

Voś-ža Kryviec zajaviŭ, što praca na vioscy siarod biełaruskaje moładzi prosta niemahčymaja, bo da „kołaŭ“ „Związku Młodej Wsi“ moładź nia jdzie, imi nia cikavicca, tak što prychodzicca „siabroŭ pryciahvać na šnuročku (dasłoŭna—r e d.), a byvaje tak, što navat z šnurkoŭ zryvajucca“...

„Przodownik“ Malinoŭski ŭ pracy svajej vybraŭ jšče „lepšy“ sposab. Jon nia mohučy pryciahnuć bieł. moładzi ŭ „koły“ ZMW polskaj knižkaj, užyvaje matadaŭ čysta palicyjnych, choć siabie ličyć „przodownikam“ ZMW, a nie palicyi. Jon—kazaŭ—što jak pačuje, što dzie-niebudź jość pryvatnaja zborka moładzi, zaraz-ža danosić ab joj palicyi, kab taja razhaniała ich jak nielehalnaje zboryšča. Nie dajučy takim čynam mahčymaści moładzi źbiracca pryvatna ŭsich raniej „nielehalnych“ zaprašaje jon paśla na zborki ŭ „koła“...

Z pramovaŭ inšych učaśnikaŭ źjezdu byli čutny badaj takija-ž samyja viestki ab pracy ich na vioscy.

Heta, biazumoŭna, śviedčyć ab tym, jak sapraŭdy nizkich i podłych metadaŭ užyvajuć „przodownicy“ Z M.W. u svajej pracy siarod biełaruskaje moładzi i jak sapraŭdy našaja moładź mocna ŭžo śviedamaja nacyjanalna i stojkaja.

Praŭda, ŭžyvaje ZMW i chitrejšych sposabaŭ u svajej pracy, a imienna, pazvalaje bieł. moładzi ładzić biełaruskija pradstaŭleńni, zapisvacca ŭ śpisie biełaruskaj nacyjanalnaści i inš. Usio heta adnak tolki dziela taho, kab pryciahnuć da siabie bieł. moładź i kab paśla pastupova rabić na jaje polonizacyjny ŭpłyŭ.

Voś-ža ŭsim treba ab hetym dobra pamiatać i ŭsie padychody ZMW brać pad uvahu dy ćviorda stajać pry svajom. Dzie-ž mahčyma, treba ZMW, tak jak i „kursy społ.-oświatowe“ i „WUL“ u Vilni, vykarystyvać dla biełaruskaje adradženskaje pracy, dziela ŭśviedamleńnia biełaruskaje moładzi i h. d.

Panom-ža z ZMW niachaj budzie viedama, što biełaruskaja moładź patrapić užo sama baranicca, nia pojdzie ŭ tuju arhanizacyju, čužuju, jakaja joj niasie zhubu; nie zahonicie ŭ jaje navat palicyjnymi metadami, a kali i zahonicie, to budzie tam rabić toje, što karysnaje biełaruskamu narodu. J. N.

# Найвялікшы Песьняр Украіны — Тарас Шэвчэнка

*(У 75-тыя ўгодкі сьмерці Ягонай)*

Месяц сакавік кожнага году ўвесь Украінскі Народ прысьвячае памяці свайго найвялікшага сына Тараса Шэвчэнка. У гэты месяц кожны украінец пяе гімны на чэсьць і славу ягоную.

Хто-ж такі Тарас Шэвчэнка, — запытае не адзін з маладых Беларусаў, — што так моцна захапіў сэрцы нашых братоў Украінцаў? Чаму-ж так пакорна ўсе яны хіляць галовы прад ім!

О, так! Хіляць галовы, бо-ж асоба Тараса Шэвчэнка ёсьць вялікай і слаўнай. Тарас Шэвчэнка — гэта Найвялікшы Пясьняр, Будзіцель, Прарок Украіны. Тарас Шэвчэнка— гэта Бацька украінскага адраджэньня. Ён усёцэла аддаў сябе агульнаукраінскай справе і сваю Бацькаўшчыну, свой працоўны народ любіў безгранічна. Любоў гэта праяўлялася ўва ўсім ягоным жыцьці і творчасьці, бо-ж пісаў ён:

„То Україна, то моя
Кохана, рідна Україна,
Її широкії поля,
Її могили і руїни,
Святая прадідів земля!
Люблю тебе я, Україно,
Твої шовковії луги,
Твої зеленії діброви,
Круті Дніпрові береги,
Люблю, люблю вас до загину
Новою силою любови.
(„Гайдай").

Радзіўся Тарас Шэвчэнка 9.III.1814 г. у в. Морынцах, Звэнігародзкага пав. у Кіеўшчыне, як сын прыгоньніка. З малых дзён астаўся ён круглым сіратою, без дагляду, у страшэнна цяжкіх варунках.

Вучыцца пачаў Тарас у мясцовага дзяка, п'яніцы, каторы часта яго біў, так, што малы на той час Тарас уцёк ад яго і трапіў у двор да свайго пана, якому нязвычайна падабаўся і з якім ён часта езьдзіў па розных местах, як казачок-лёкай. Шэвчэнка з малых дзён ужо праяўляў вялікія здольнасьці і цікавіўся мастацтвам. У часе бытнасьці з сваім панам у Пецярбурзе, удалося яму якраз пазнаёміцца з людзьмі мастацтва і навукі, дзякуючы каторым, ад 22.IV.1838 г. быў ён ужо вольны і пачаў новае жыцьцё. Вучыцца тады мастацтва, піша і стаецца ведамым паэтам усёй Украіне. За нязвычайна, аднак, сьмелыя свае думкі і украінска-адраджэнскую працу, зварочвае ён на сябе ўвагу расейска-царскай улады, якая ў 1847 г. арыштоўвае яго ў Кіеве і засуджвае на бестэрміновую прымусовую службу ў расейскім войску (у Орэнбурзе), дзе забараняюць яму пісаць і рысаваць. Пасьля 10 гадоў звольнілі Шэвчэнку і ён узноў едзе на Украіну, а вярнуўшыся ў Пецярбург, па нейкім часе памірае 10-га сакавіка 1861 году. Пахаваны, згодна з яго воляй, у в. Каневе над Дняпром.

За ўвесь час свайго жыцьця Тарас Шэвчэнка даў укра-

інскай літаратуры многа мастацкіх, перасычаных любоўю да свайго народу і Бацькаўшчыны, твораў, каторыя галоўна сабраны ў вялікім зборніку вершаў п. н. „Кобзар“. Некаторыя ягоныя творы пераложаны ўжо на беларускую, польскую і іншыя мовы.



Тарас Шэвчэнка — Рэзьба А. Павлося.

Апрача мастацтва ў слове, Т. Шэвчэнка быў мастаком абразу і як такі пакінуў больш 1000 арыгінальных і цэнных абразоў.

Шэвчэнка для Украінцаў ёсьць гордасьцяй і славай. Ён у сваей творчасьці апяяў усе радасьці і болі свайго на-

роду так, як гэтага ня змог можа зрабіць нават ніводзін паэт іншых народаў. Ён — як кажа наш Янка Купала:

„Дух збудзіў свайму народу,
Сваім гучным словам
Навучыў любіць свабоду,
Родны Край і мову“...
(Памяці Т. Шэвчэнкі—„Шляхам Жыцьця“).

Тарас Шэвчэнка адважна кідаў у вочы гнябіцелям Украінскага Народу іхню подласьць, заклікаў Украінцаў, каб:

„Як умру, то поховайте. .
...На Вкраїні мілой...
...Поховайте та вставайте,
Кайдани порвіте,
І вражою злою кровью
Волю окропіте...“
(З „Заповіту“—Кобзар).

і прарочыў:

„Встане Україна
І розвіє тьму неволі,
Світ правди засвітить
І помоляться на волі
Невольничі діти!.. “

Няхай-жа станецца гэта як найхутчэй!...

Я. Н.

# Jak źviary vučać svaich dziaciej.

Ci vy bačyli kali-niebudź u hniaździe tolki što daśpieŭšych da ŭźlatańnia maładych vierabiejčykaŭ? Byccam kučka niaščaścia, u rastrapanym hniaździe siadziać ciesna z saboj stulenyja čatyry-piać naježanyja pierjem i kłubočki, z niazvyčajna vialikim žoŭtym dziubam i perłovymi vačmi, dy biazupynna kryčać ješči. Jany jšče nia majuć u sabie ani kryški zadorystaści vierabjoŭ starych.

Ale starym vierabjom zdajecca, što ŭžo pryjšoŭ čas pačać małych hniaździukoŭ vučyć. Stary vierabiej baćka prylataje z łasaj husienicaj ŭ dziubie i siadaje, jak dahetul, na bierazie hniazda. U adzin mament šyraka raziaŭlajucca hałodnyja dziubki, małyja hałoŭki byccam na kamandu padyjmajucca ŭvierch i dryžać, jak u sudarhach: usio cieła dryžyć ad prahnaści. Tolki baćka ani dumaje, jak byvała zvyčajna, usunuć łasuju husienicu ŭ adnu z čyrvonych harlonkaŭ. Jon spakojna vyciahvaje šyju, padškikivaje i pieralataje na susiedniuju halinku. Dzieci ździŭlenyja, byccam z zatrymanym ducham, śladziać niahodny pastupak, pohladam molać i ŭściaž kryčać, probujuć uzdyjmacca ŭvierch dy zmoranyja bieznadziejna apadajuć nazad u hniazdo.

Baćka źjaŭlajecca ŭznoŭ na bierazie hniazda. Uznoŭ toj samy pisk i dryžeńnie ptušaniat. Raptam adzin z małych vybirajecca z piarynnaj padścilki navierch i precca da łasaha prysmaku. Baćka, trymajučy uvieś čas u dziubie zialonuju hu-

sienicu, spuskajecca pamału ŭniz, a — z pierapudam bačać heta ŭsie inšyja — śmieły synok pierachilajecca praz bierah hniazda, lacić, niaviedamki rastapyrvajučy krylla, ukosna ŭniz i kirujecca niaśviedama da najbližejšaha miesca apory. Zmorany siadaje tam, rasstaviŭšy nohi, sudaražna trymajecca na suku i kormicca. – Zvodžanyja kormam i ašukivanyja pry dahaniańni jaho, advažvajucca ciapier adzin za druhim maładyja ptušaniaty na pieršy svoj palot, a chutka pačynajuć lotać i sami.

Kali-ž zdarycca adzin bajaźlivy, jakoha nie patrapiać vymanić z hniazda ni hoład, ni prykłady bratoŭ - siaścior, dyk baćki zastasoŭvajuć da jaho srodak bolš vostry. Jany porać hultaja z vyhodnaha hniazda i, jak by jon nia ŭpireŭsia, vykidvajuć jaho stul. Padobnuju metodu navučańnia — prypaminaje jana krychu pryjacielskuju radu: „kiń tolki bałvana ŭ vadu, — budzie pływać“ — zastasoŭvujuć niaredka i inšyja ptuški. Časta adnak, vykinuŭšy hadunca z hniazda, chutka latuć uniz i baćki, kab vykinutaha padchapić. Ab matcy-sokale raskazvajuć napr. hetak: aboje małyja, daśpiełyja ŭžo da latańnia, usieŭšysia na suku dreva, pryhladalisia, jak latajuć prociŭ vietru ichnija baćki. Raptam skorym ukosnym lotam matka zalacieła ŭzad za dreva i, nadlatajučy stul užo pavolna, hrudźmi ci kryłom sapchnuła z suka adno z svaich ptušaniat: choćki nia choćki musiła jano latać, ale chutka sieła ŭznoŭ na dreva. Paśla pryjšła čarha na navuku druhoha ptušaniaci, jakoje taksama było matkaj sapchnuta z suka i prymušana pracavać kryllami. Paśla karotkaha adpačynku byli śkinuty z suka aboje ptušaniaty razam i zmušany latać, pryčym matka viała dziaciej pry ŭkosnym uźlocie prociŭ vietru, pry kryžavańni, apuskańni i inšych štukach latańnia.

Možna taksama lohka pabačyć, jak vučać latać svaich dziaciej ziamnyja ci bierahavyja łastaŭki, jakija robiać svaje hniozdy adno kala druhoha, całymi kolonijami, u krutych bierahoch, u hlinianych i vapniakovych ścienach. Adzin dobry nahladčyk padhledziŭ, jak matka, vučačy svaich dziaciej łavić u pavietry zdabyču, pralatała z piarom u dziubie kala vačej čakajučych na korm ptušaniat, paśla heta piaro śkidała źvierchu ŭniz i chutka ŭznoŭ jaho łaviła. Heta paŭtarałasia datul, pakul dzieci sami nie ŭzachvocilisia łavić śkidanaje piaro. Ale dakučlivy hoład urešcie pierarvaŭ praktykavańnie. Adzin z baćkoŭ adlacieŭsia i viarnuŭsia z kapusnym matylom u dziubie i paŭtaryŭ z hetym matylom papiaredniaje praktykavańnie. Raptam adzin z małych sprytna schapiŭ zdabyču i spažyŭ jaje.

Chto-ž nia bačyŭ, jak kvaktucha vučyć svaich kuraniat šukać i źbirać spažyvu?! Asablivym hołasam kliča jana k sabie małych, kali znojdzie jakojeś ziarniatka, abo rabačka. Jana raździubyvaje ziarnio, razryvaje rabačka i vučyć svaich małych dziubać svajoj dziubkaj, pakazvaje jak kopškacca nahami na śmietniku. Jana vuča kuraniat pić z zadziortaj ŭharu

hałavoj. Štučna vysiedžanyja kuraniaty lepš navučajucca hetkaha piccia z prykładu. Dziubka takoha kuraniaci nachilajecca ŭ vadu, kab joj napoŭniłasia. Pry padyjmańni hałavy vada svajoj ciažaściu ściakaje ŭniz. Chto štučna haduje kuraniaty, toj musić taksama pakazyvać im palcam, jak treba dziubać, kali choča navučyć ich ješci.

Miła vielmi pryhladacca, jak pływajučyja ptuški, naprykład lebiedzi ci nurcy vučać svaich dziaciej pływać. Ptušaniaty pływajučych ptušak z rodu zusim nia ŭmiejuć pływać, jany spačatku bajacca navat vady. Lebiadzinaja matka žbiraje małych ptušaniat sabie na plečy i z imi vypływaje na poŭnuju v du, tady raptam apuskaje svajo cieła tak hłybaka ŭ vadu, što małyja apynucca sami i chočać ci nia chočać — musiać pływać. Paśpiešna, nierehularnymi jšče ruchami, viasłujuć jany nahami i starajucca ŭzabracca na plečy matki, katoraja pazvalaje zmučanym paśla niejkaha času tam adpačyć.

Zabaŭna pałasiastyja dzieci nurca vučacca pływać zusim taksama. Tolki na ich možna bačyć i čuć jašče bolš strachu i pierapudu, kali matka pad imi raptam dašć nurca ŭ vadu i tolki daloka pakažycca ŭznoŭ nad vadoj. Piščačy, z vyciahnienymi, pužliva kivajučymi šyjami, starajucca jany dapłyć da najbližejšaj vadzianoj rožy abo tryśniku, z katoraha matka ich uznoŭ zabiare. Adnaho dnia paśla, kali małyja stanucca ŭ pływańni ŭžo bolš peŭnymi, biare matka kožnaha pa čarzie pad kryło i vykonyvaje z imi rehularnyja praktykavańni u davańni nurca, kab dzicia pazbyłasia strachu vady i kab pamału samo vyvučvałasia hetaj štuki.

Śpiavajučyja ptuški svoj hałasavy instrument, zvany „Syrinx,“ dychnicu (hartań) i adpaviednuju zdolnašć da śpievu, praŭda, prynosiać užo z saboj na śviet, ale melodyju svajho rodu, śpieŭ ci pieśniu musiać niekatoryja jšče navučycca. Kali jość u vakolicy, dzie hadujucca śpieŭnyja ptušaniaty, dobry „zapiavała,“ dyk i padrastajučyja ptušaniaty buduć dobrymi śpievakami. Kali-ž u blizkaści jość „vučyciel“ tolki siaredniaj jakaści, dyk pad jahonym kiraŭnictvam psujucca i hałasy maładych ptušaniat. Kali chto choča z ptušaniat, vyhadavanych u kletcy, addzielenych ad ptušak svajho rodu, mieć dobrych śpievakoŭ, toj musić u nastupnuju viasnu addać ich u navuku dobramu vučycielu. Kožny pryjaciel ptušak viedaje, što zdolnyja ptuški nia redka da svajho sobskaha śpievu vučacca taksama damiešvać čužyja melodyi, a navat naturalnyja huki. Hadavielnik Bremskich kanarkaŭ Reich addaŭ raz maładych kanarkaŭ na navuku da sałaŭjoŭ i hetak vyhadavaŭ śpievacki rod kanarka-sałaŭiny. Dziela śpiavackaha ŭzhadavańnia śpieŭnaj ptuški, pobač z urodžanym talentam, dziacinnaja škoła heta ŭsio.

Čym na vyšejšaj stupieni raźviccia staić žyvioła, tym mienš prynosić jana z saboj na śviet naślednych zdolnaściaŭ,

tym bolš musić zdabyć svaim trudom, choć i hulajučy, u škole (Tierkinderschule). Drosnyja žyvioły mohuć utrymacca ŭ zmahańni za byt tolki tady, kali jany praktykavańniem (Schulung) svaich duchovych nachiłaŭ navučylisia vykarystoŭvać svaje cialesnyja zdolnaści.

Niama chiba nivodnaha tak zachoplivajučaha hatunkovaha abraza (Genrebild) z žyćcia maładych źviaroŭ, jak dziciačaja škoła kotki, hetaha poŭna-drosnaha źviarka; i tamu malary niaźličanyja razy karystali z jaho ałaŭkom i penzlem. Čuć tolki maładoje kacianio pačynaje bačyć, jak užo pačynajecca važnaje na ŭsio žyćcio navučańnie. Matka piaščotnymi tonami vabić małych k sabie i adnačasna pryzvyčajvaje ich być uvažnymi. Paśla, byccam źniačeŭku, pačynaje krucić i vilać chvastom, časam kryšačku ruchajučy končykam chvasta. Hetki ruch dražnić kacianiat:- jany łoviać chvost, skačuć za im, starajucca ŭzabracca na matku, pieravaračvajucca praz jaje i sami praz siabie i ŭsio bolš uzachvočvajucca, sprytam ci chitraściu, zlavić zdabyču. —Až tut źjaŭlajecca niešta inšaje— što heta takoje niaviedamaje? Chutkim skokam starajecca kacianio dastać ruchavaje matčynaje vucha; skača adnak za daloka, pierakulvajecca i kurniaŭkaje. Matka aściarožna padciahvaje bałvana łapaj da siabie i pačynaje lizać jahonuju hałoŭku. Padkradańnie, pravidłovy skok, zmahańnie z praciŭnikam, užyvańnie kapciuroŭ, zuboŭ — usio, što kot patrabuje ŭ žyćci, vyvučvajecca u hetych lekcyjach.

U Johnson'avym filmie „Baboona“ možna bačyć, jak matka pavijana (nałpa) vuča svajo dzicia leźci pa drevie. Jana padyjmaje dzicia ŭvierch i pryciskaje jaho da dreva. Paśla kładzie adnu łapu dziciaci na dreva, paśla druhuju, dzicia instynktoŭna trymajecca za karu, adnačasna pamału padyjmajučysia. Tady matka pierastaje zusim pamahać, a — dzicia biazładna spaŭzaje ŭniz. Heta paŭtarajecca tak doŭha, pakul dzicia nie zrazumieje, što jano pavinna vyvučycca. Bo-ž umieńnie łazić pa drevach, heta dla nałpy vielmi važny varunak žyćcia. Instynkt, pryčapicca da čaho-niebudź, dzicia nałpy atrymoŭvaje ŭžo ad natury, i matka z pieršych užo dzion uzbudžaje i ŭzmacniaje hety instynkt tym, što jana sama siabie i učeplenaje kapciurami ŭ aŭčynku dzicia mocna strasaje siudy i tudy.

Vučačysia byccam hulać, dzieci źviaroŭ sapraŭdy vučacca. Kožnaja z ichnich hulniaŭ heta achvotna vykonvanaja školnaja rabota, heta pryhatavańnie da sapraŭdnaha žyćcia.

*„Berl. Ill. Z—ung.“* Dr. Adolf Heilborn.

---

**Braty! Ci pravodzicca ŭ Vas školnaja akcyja i ci robicie Vy ŭ hetym kirunku jakija-niebudź zachady. — Pomnicie, što rodnaja biełaruskaja škoła paviadzie nas da lepšaj budučyni. Kožny biełarus pavinien damahacca biełaruskaje škoły!...**

---

# Ci budzie novaja suśvietnaja vajna?

Voś najbolš modnaje siańnia na cełym śviecie pytańnie, jakoje tryvožyć nia tolki dziaržavy i narody, ale i kožnaha pasobku čałavieka. Čujucca hałasy, što chutka ŭžo maje ŭspychnuć suśvietny pažar, katory ŭsio zhłumić. Hazety pišuć ab hetym usialak, a ludzi miž saboj, asabliva na vioscy, viaduć časta fantastyčnyja i strašnyja hutarki.

I sapraŭdy na śviecie ciapier chutka raźvivajucca takija padziei, jakija pavažna pahražajuć ahulnamu sučasnamu ładu i miru. Niadaŭna tryvožyła ŭsich italijanska-abisynskaja vajna, ciapier-ža tryvožać uvieś śviet niazvyčajnyja padziei nia tolki



Novačasnyja francuskija tanki na maniebrach u horach.

na Dalokim Uschodzie, ale ŭžo i na bliskim Zachadzie, dzie z treskam akančalna łomiacca Versalski i Lokarna'ŭski dahavory — padstavy pavajennaha ładu ŭ Eŭropie i Lihi Narodaŭ.

Usie dziaržavy zbrojacca navypieradki. Pavodle japonskich abličeńniaŭ uzbrajeńnie roznych dziaržaŭ u mirnyja časy i vajskovaja siła ich na vypadak vajny pradstaŭlajucca hetak: Saviety *ŭ časie supakoju* majuć armiju z 1,600 (u tysiačach) čałaviek, a *ŭ časie vajny* mohuć mieć armiju (9,200); Francyja — 643 (4,600 čałaviek krajoŭcaŭ i 1,000 kalarovych z kalonijaŭ); Złučanyja Štaty Paŭnočnaje Ameryki — 330 (4,000); Anhlija— 250 (2,000); Niamieččyna - 550 (kolki ŭ časie vajny niaviedama);

Italija—467 (5.000; Polšč—266 i 31 pahraničnaj stražy (3 200), ČSR — 201 (1.400); Juhasłavija — 148 (2.500); Rumynija — 155 (1.600); Hišpanija — 156 (7,800) i Turcyja 200 (1 300).



Amerykanski bombavy samalot z tankam.—Prymacavany tank da samalotu, kali patreba, moža być na ziamli adčepleny i samadzielna budzie dzieić.

*Harmataŭ*, lohkich, ciažkich i prociŭlatunčych majuć: Anhlija — 2.400, Francyja — 2.015, Italija — 2.229, Juhasłavija— 1.012, Polšč — 1.700, Rumynija — 1.900, Saviety — 10.900, Hišpanija — 748, ČSR — 1.352, Złuč. Štaty Ameryki - 3.800.

Usie dziaržavy pavialičvajuć kolkaść svaich *samalotaŭ* i ciapier majuć: Anhlija — 3.000, Francyja — 2.300, Belhija — 700, Italija — 2.800, Juhasłavija — 831, Polšč — 1.500, Rumynija — 800, Saviety — 4 500, ČSR — 1.300, Turcyja — 400, Złuč. Št Ameryki pry vojsku na suchapućci — 1.500, aproč hetych jość jašče samaloty pry marskim flocie.



Novy pancerny vajenny niamiecki karabiel „Admiral Graf Spee".

Jak bačym, niama tut dadzienych ab vajskovych siłach Japonii i Niamieččyny, jakija, zdajecca, u zbrajeńni zajmajuć pieršaje miesca. (Niadaŭna Japonija na dadatkovaje zbrajeńnie

asyhnavała 2 milijardy jen, h. zn. kala 9 milijardaŭ pol. złotych). Ahułam treba adznačyć, što vyšej padadzienyja cyfry jość niapeŭnyja i nie abyjmajuć usich vajskovych sił katoryja trymajucca dziaržavami ŭ tajnicy. Ciapier kožnaja dziaržava starajecca vydumać novyja vajskovyja pryłady i novyja, mudrejšyja ad isnujučych užo, sposaby vajny. Novyja vajskovyja vynachody kožnaja dziaržava trymaje ŭ tajnicy i tolki vypadkova byvaje, što jakaja-niebudź z henych tajnicaŭ vykryjecca, jak naprykład niadaŭna vyjaviłasia, što Anhlija maje „pramieńni śmierci".

Charakternym źjaviščam jość jašče toje, što ŭsie dziaržavy z kožnym hodam mocna pavialičvajuć svaje vajskovyja budžety. Tak napr. Saviety ŭ 1935 h. vydali na vojska — 8 milijardaŭ 200 milijonaŭ rubloŭ, a na 1936 h. vyznačyli čuć nia ŭ dva razy bolš, bo až — 14 milijardaŭ 800 milijonaŭ, Niamieččyna ŭ 1934-35 hodzie vydała na vojska—5 milijardaŭ 677 milijonaŭ marak, a na 1936 h. henu sumu značna pavialičyła. Polšč pačała tvaryć „fundusz" abarony svaje dziaržavy.

Heta vyrazna pakazvaje, što vajna ŭściaž prybližajecca. A maje jana być strašnaja, jakoj i śviet nia bačyŭ. Najstrašniejšaja jana biazumoŭna dla moładzi, katoraja ŭ pieršuju čarhu budzie harmatnim miasam. Razumiejuć heta dobra arhanizacyi moładzi i ŭsimi siłami suproćstaŭlajucca henaj strašnaj mary.

Voś, 29 lutaha i 1 dy 2 sakavika sioleta ŭ Brukseli adbyŭsia suśvietny kanhres moładzi ŭ abaronu supakoju. U kanhresie hetym pryjmali ŭdzieł pradstaŭniki roznych levych arhanizacyjaŭ moładzi, a tak-ža pradstaŭniki i katalickaj moładzi. U vyniku naradaŭ pryniata było rad pastanovaŭ, śkiravanych suproć imperjalistyčnaha honu da vajny. Ci pryčynicca heta choć u małoj miery da ŭtrymańnia supakoju – pakaža budučynia.

Na zakančeńnie treba skazać, što novaja suśvietnaja vajna moža pryniaści vyzvaleńnie mnohim, paniavolenym siańnia narodam... **B. Čanuk.**

---

**Lavon Burałom**

* * *

Čyrvań zorki jasnaj
Irdzić byccam kroŭ.
Rodnaja ajčyna
Kliča ŭsich synoŭ.
    Da zmahańnia śmieła,
    Baćkaŭščyny syn,
    Pad štandar śviaty svoj
    Stanie, jak adzin.
Iz advahaj ŭ sercach
Pojdzie kožny ŭ boj,
Choć-by ŭsie ŭ mahiłach
Znajšli supakoj.

Tam šera ziaziulka
Budzie kukavać,
A stara matulka
Ślozy vylivać.
    Oj nia płač matulka,
    Hodzie ślozy lić,
    Tvoj synok ŭ mahiłcy
    Nieprabudna śpić.
Jon rasstaŭsia z śvietam
Za rodny svoj kraj,
Nad jaho mahiłaj
Sumna płača haj.

**Андрэй Чэмер.**

# На родным палетку [2)]

II.

Аднастайна шаргаціць гліна й пясок балоцістых каляінаў пад коламі лісаваніка.

Неахвотна, з натугаю члапае кабыла па гразкай дарозе. Дождж бесперастанку мыгліць і мыгліць.

Усё жывое быццам схавалася ад непагоды, толькі часам праляціць варона, цяжка махаючы крылом.

Васіль глыбей зашыўся ў бурку, панукаў каніну, ды йзноў аддаўся сваім невясёлым думам.

Але вось першая паваротка да Сялішчоў, зараз будзе другая, у Зарэчча, а крыху далей, на ўзгорку, за ручаём, народны дом.

Там моладзь шумнаю грамадой закончывае апошнія прыгатаваньні да спэктаклю.

Сцэна гатова, — толькі прыбраць зяляньню ды сшыць завесу.

А ў сярэдзіне хату й пазнаць трудна!...

Сьцены атынкаваны, выбелены; столь таксама; вокны завешаны скромнымі, але мілымі фіранкамі На сьцяне Пагоня, партрэты Купалы, Коласа, Багдановіча, карта Беларусі, адрыўны беларускі календар...

Адным словам праўдзівы народны дом!

Вось Агатка з Волькаю кончылі шыць завесу й сцэну засланілі прыгожай, беларускай тканінаю.

— Васіль, Васіль едзе! пачуліся галасы ад вакна. І сапраўды, да хаты пад'яжджаў Васіль.

Мінуўшы студню, уехаў у вароты, прывязаў да слупа лейцы ды ўвайшоў у хату.

— Ну, як? Дастаў дазвол? Будзем ладзіць прадстаўленьне?... пасыпалася з грамады.

— Зараз, зараз, раскажу ўсё папарадку.

Сьцінуў бурку, сеў на табурэце сярод моладзі.

— Так, сябры. На гэты раз нам не ўдалося... Дазволу не далі. Самі ведаеце, што разоў дзесяць быў я ў старастве, заўсёды „władza“ адказвала на наступны раз. А вось сягоньня, калі я рашуча зажадаў адказу, — адказ далі: стараста ня хоча нам легалізаваць гурток і не дае дазволу на спэктакль.

— Як то? Дзеля чаго? Ці ж мы што нязгоднае з правам робім?

— Робім то мы згодна з правам, але стараста таксама робіць згодна з правам...

— А прадстаўленьне? А наша праца каля народнага дому? А вячэрнія курсы? Калі гуртка не зацьвердзяць, то з усяго гэтага нічога ня выйдзе?...

Як падражнены рой у вульлі, зашумелі дзяўчаты й хлопцы. Роспач і абурэньне ня мела граніц.

Чаму „стшэльцу“ ды іншым польскім арганізацыям даюць дазвол на тыя самыя п‘есы, а беларусам не!?

Ды якім правам стараста не легалізуе нам гуртка, калі статут арганізацыі зацьверджаны міністэрствам?

Сярод агульнага гневу і крыку трудна было што-небудзь разабраць.

Але ўрэшце ўсьцішыліся, і вочы ўсіх зьвярнуліся на Васіля.

Сябры! — пачаў Васіль, — ня першы раз спатыкаем мы такія зьявішчы ў культурна-асьветнай працы

Хоць і не зацьвердзілі нашага гуртка, не далі дазволу на прадстаўленьне, але сваё мы зробім і спэктакль наладзім! Дык запрашайце на нядзелю ўсіх знаёмых і блізкіх, усіх запазнайце са мной і я на сваю адказнасьць наладжу прадстаўленьне! Запрашаць гасьцей і павесяліць іх нам не забароняць!

— Чаго не далі нам выканаць публічна, сарганізуем у прыватнай форме!...

* * *

Яшчэ задоўга да прадстаўленьня пачалі зьбірацца дзяўчаты й хлопцы з суседніх вёсак у Зарэчча.

На панадворку каля „Народнага Дому“ йграла музыка, і там пераважна зьбіраліся людзі.

Нямала старых сялян таксама прыйшло пацікавіцца прадстаўленьнем. І ня гледзячы на тое, што нідзе ня было ніякіх абвестак, ні афішаў, народу сабралася больш чым магло зьмясьціць памешканьне.

Зарэчанцы, а асабліва Васіль, ветліва віталі знаёмых грамадзян, а калі быў хто незнаёмы, дык зараз-жа запазнаваліся й кожны чуўся, як дома.

А 7-й гадзіне вечара Васіль усіх папрасіў у залю і кароткаю прамоваю павітаў прысутных.

Урэшце распачаліся дэклямацыі прозай і вершам, адзіночныя і груповыя.

Сьмешна і разам міла было слухаць, як дзеці, не выгаварваючы добра словаў, дэклямавалі гумарыстычныя творы Паўловіча, Крапівы, або проста выбраныя з „Маланкі“.

Пацешна выглядала, як „воўк“ (8-мігадовы Паўлюк) схапіў 6-цігадовае „ягня“ і панёс за сцэну „есьці“...

Пад уражаньнем добра выкананых дэклямацыяў настрой вытварыўся нязвычайны.

Здавалася, што кожны з прысутных перажываў словы паэта, яго думкі і імкненьні.

Асабліва, калі Сымон Сьцяпанаў задэклямаваў „Нёмна“ ды „Прарока“ Купалы, або „Ворагам Беларушчыны“, — кожны, маўляў, пачуўся два разы мацнейшым, хутчэй запульсавала кроў, душа і цела рваліся да чыну, змаганьня!

Радаснымі ўсьмехамі і бурай воплескаў нагарадзіла публіка дэкляматараў.

Але вось паволі рассунулася завеса, і вачам глядзельнікаў адкрыўся цудоўна прыгожы абраз эфэктоўна асьветленай лясной паляны, а пасярэдзіне 3 начлезьнікаў на **папасе** ..

Хіба кожнаму вядомы нязвычайна вялікі, па характву і глыбокаму зьместу, уплыў на глядзельнікаў п'есы „На папасе."

І ня прыходзіцца дзівіцца, што публіка глядзела на сцэну, як зачараваная...

Пасколькі паважна і з увагай усе перажывалі п'есу „На папасе," пастолькі незмаўкаючым рогатам сустракался і праводзілася кожная дзея „Мікітавага Лапця."

Сапраўды, праца зарэцкай моладзі не прапала дарма!

Варта доўгія месяцы працаваць, каб выклікаць гэткі настрой і гэткі магутны пад'ём духу ў так вялікай грамадзе.

Але... што такое? Яшчэ п'еса не дабегла да канца, а людзі пры ўходзе раптам пачалі ўставаць, таўпіцца і шуганулі на сцэну!...

Зазьвінела шкло выбітых шыбаў, скваэьняк моцным подмухам згасіў лямпу... Што за крыкі?!...

— А-а-а-й!... Б'ю... цца!!... Уцякайце!!!...

Стогны, стукат, таўкатня, енкі зьмяшаліся ў адзін жудасны гул...

— Грамадзяне! Спакойна!... хацеў наладзіць якісь парадак Васіль, але зараз дастаў нечым цяжкім па галаве, тысячы зор мільганулі ў вачох... і страціў прытомнасьць.

— Прэч!... чуліся ў цемнаце крыкі.

— — — — — — — —

Яшчэ некалькі хвілін трывала варварская бойня, а за паўгадзіны йзноў начная цішыня агарнула вёску.

Толькі ў убогіх сялянскіх хатах ліліся горкія сьлёзы мацярок, ды бязлікія зоры дрыжачым паглядам пясьцілі нашу гаротную зямельку. *(д. б.)*

---

**Вярбіна**

## Батрак

Дзе ні гляне маё вока,
Ўсё чужое бачу я...
Ці то блізка, ці далёка —
Як вялікая зямля...

Я ня маю свае хаты —
Беззямельны я батрак.
Лятуценьнем я багаты —
Ў родным краю я жабрак...

Маё поле, мае нівы
Дзесь аж там, пад аблаком.
Мае коні — хмары сівы,
Паганяныя вятром..

Маё поле сее вецер
І маланкі арэ плуг,
А арэнду ў летні вечар
Сыпле мне расой на луг.

---

## CHRONIKA

### Z biełaruskaha žyćcia

**Prezydyjum Biełaruskaha Nacyjanalnaha Kamitetu** ŭ Vilni 19.IV sioleta vydaŭ kamunikat u spravie abnovy Bieł. Nac. Kamitetu na 1936-37 h. Pieršy Ahulny Schod abnoŭlenaha BNK-tu adbudziecca 10-ha traŭnia siol. u zali BIHiK u Vilni.

**Ahulny Hadavy Schod Rady Biełaruskaha Instytutu Haspadarki i Kultury** adbyŭsia 26.IV sioleta ŭ Vilni. Spravazdaču z hetaha schodu padamo ŭ nastupnym numary.

**Z dziejnaści Vil. Addziełu BIHiK.** 26.IV ŭ pamieškańni Vilenskaha Addziełu BIHiK Ks. V. Hadleŭski pračytaŭ referat na temu: „Raźvićcio staradaŭnaj biełaruskaj movy ad XIII da XVI stahodździa". Paśla referatu chor Vil. Addz. BIHiK prapiajaŭ viazanku bieł. pieśniaŭ, pieraplatanych deklamacyjami bieł. vieršaŭ.

**Aryšty siarod biełaruskich vučniaŭ.** Pierad Vialikadniem u Vilni palicyja zatrymała 7 biełaruskich vučniaŭ, z jakich 6-cioch paśla daprosu zvolniła, a adnaho, Bułhaka, pasadziła ŭ vastroh.

**Zvolnieny 20 vučniaŭ.** Dyrekcyja Bieł. Himnazii ŭ Vilni, z pryčyny nieapłaty za navuku, zvolniła z lekcyjaŭ 20 vučniaŭ hetaj himnazii. Jak bačym, ciažki los biełaruskaje moładzi.

**Biełarusy-kataliki,** u Vilni, za prykładam min. hodu, u pieršuju niadzielu m-ca červienia (h. zn. dnia 7.VI) sioleta ładziać pilihrymku ŭ Kalvaryju kala Vilni. Pažadana, kab da jaje pryłučylisia i biełarusy kataliki z pravincyi, dla katorych budzie biaspłatnaja kvatera i harbata ŭ pamieškańni Biełaruskaha Instytutu Hasp. i Kultury ŭ Vilni — Zavalnaja vulica № 1. Tam-ža i zborny punkt 7.VI a hadzinie 7-aj ranicaj.

## U BIEŁ. SKAŬTAŬ

— Nia tak daŭno polski skaŭcki časapis „Na tropie" ładziŭ konkurs na najlepš sarhanizavanuju schodku addziełu skaŭtaŭ (na piśmie). U konkursie hetym prymali ŭdzieł i niekatoryja biełaruskija skaŭty, pryčym I-šuju naharodu zdabyŭ kiraŭnik adnaho z addziełaŭ 10-je družyny Biełaruskich Skaŭtaŭ im. Fr. Bahuševiča ŭ Vilni — biełarus — Uładzimier Kieturka.

— B. družynovy 10-je družyny Bieł. Skaŭtaŭ u Vilni K. Paŭl apracoŭvaje padručnuju knižycu dla biełaruskich skaŭtaŭ p. n. „Pryjaciel biełaruskaha skaŭta".

— 25.IV siol. u Vilni ŭ zali Bieł. Himnazii ładzili bieł. skaŭty viečarynu. Dachod z jaje praznačany na karyść bieł. skaŭtaŭ u Vilni, jakija sioleta letam majuć namier sarhanizavać vandroŭny biełaruski skaŭcki aboz.

— Kali-b chto z moładzi na pravincyi chacieŭ załažyć družynu biełaruskich skaŭtaŭ i nia viedaŭ, jak heta zrabić, na žadańnie moža atrymać patrebnyja instrukcyi ad kiraŭnictva 10-je družyny Biełaruskich Skaŭtaŭ im. Fr. Bahuševiča — Wilno, Vostrabramskaja 9—22. Nia treba chiba i kazać, što biełaruskaja arhanizacyja skaŭtaŭ vielmi patrebnaja i dzie mahčyma treba jaje zakładać. Dla moładzi-ž heta abaviazak.

## Z KRAJU

—**Tabaryški,** Vilenska-Trockaha pav. U nas, jak i ŭsiudy badaj u našym kraju, škoły polskija. Karyści jany prynosiać mała, bo paśla 6 – 7 hadoŭ navuk, dzieci ledź mohuć tolki raśpisacca. Starejšyja, bačačy vialikija trudnaści ŭ zdabyvańni rodnaj škoły dla svaich dzietak, pačali rupicca ab pazaškolnaj aśviecie. Dzieci ŭ nas lubiać svaje biełaruskija knižki i tak, jak moładź i starejšyja, samatuham vučacca hramaty, čytajučy biełaruskija knižki i časapisy, adnačasna ŭśviedamlajucca nacyjanalna. Moładź naša achvotna piaje svaje rodnyja pieśni i biarecca za adradženskuju biełaruskuju pracu. Heta nadta nie padabajecca miascovamu ksiandzu probaršču palaku-šlachcicu. Jon strašenna nia lubić śviedamych biełarusaŭ, a prosta nia znosić hurtka Biełaruskaha Instytutu Haspadarki i Kultury ŭ v. Juški, ad jakoha pramianieje biełaruski duch uva ŭsie baki.

*Jurka Łuhavy.*

— **Ярэмічы,** Наваградзкага пав. — 13.IV сёлета моладзь ладзіла беларускае прадстаўленьне. Ставілі „Паўлінку“ Я. Купалы. П еса адыграна была вельмі добра. Зацікаўленьне прадстаўленьнем было вялікае. — 12.IV сёл. адбылося такжа беларускае прадстэўленьне ў в. Вобрынка каля Ярэміч, якое ладзіла таксама беларуская моладзь. — У часе Вялікодных Сьвят адміністрацыйныя польскія ўлады закрылі ў недалёкай ад нас вёсцы Лядкі, Стаўпецкага пав., гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры. Цяпер ува ўсіх нас зьвернуты вочы на вёску Запольле, Карэліцкае воласьці, Наваградзкага пав., дзе сяляне перасталі пасылаць дзяцей у пачаткавую польскую школу і **дамагаюцца школы беларускай**. Дзеля таго, каб сяляне пусьцілі сваіх дзяцей у школу польскую робяцца розныя „загады“, аднак сяляне ўпорыста стаяць пры сваіх дамаганьнях **р дная школы** *Ікаб.*

— **Васіліны,** Казянскай вол., Пастаўскага пав. Нашая бел. моладзь ад імя К.М.В. зладзіла 26.I сёлета беларускую вечарыну, у часе якое адыграна была п'еса Фр. Аляхновіча п. н. „Птушка шчасьця“. Вось жа трэба сказаць, што хоць арганізатары мелі шмат перашкодаў у ладжаньні гэтай культурнай імпрэзы, асабліва з боку мясцовага польскага вучыцеля, то ўсё ж-такі яна ўдалася. Народу на прадстаўленьне сабралася вельмі многа, некаторыя асобы былі нават з далёкіх вакалічных вёсак. Аднае толькі моладзі было каля 160 асоб. Шкада толькі, што малое памяшчэньне, у каторым адбывалася прадстаўленьне, не магло зьмясьціць усіх сабраных. П'есу адыгралі нашы артысты-аматары добра.

Бачачы вялікую ўдачу беларускага прадстаўленьня, „наш“ вучыцель пастанавіў наладзіць польскае прадстаўленьне і да ладжаньня яго ўцягнуў школьных бел. дзетак. На польскае аднак прадстаўленьне сабралася ўсяго якіх асоб 20.

Гэта ясна гаворыць аб сьведамасьці і імкненьнях нашых людзей і дзеля гэтага пажадана, каб беларускія прадстаўленьні адбываліся ў нас часьцей. *Н. К—ко.*

— **Варэйкі,** Ваўкавыскага пав. 1936 г. прынёс нам многа новых клічаў-лёзунгаў, як „Frontem do wsi“ і інш. Матар'яльнае аднак палажэньне сялян далей цяжкое. Малазямельных і беззямельных многа. Моладзь з прычыны благіх варункаў жыцьця марнуе свае сілы і сваю моладасьць наагул. Жывучы на сваіх мізэрных гаспадарачках, а то й зусім бяз іх, ня можа нават і думаць аб залажэньні сям'і і агулам аб культурнейшым жыцьці. Заработкаў у нас зусім няма. Людзі з сучаснага палажэньня вельмі незадаволены і ня вераць у модны сяньня лёзунг „Frontem do wsi“, які кідаюць нават урадавыя дзейнікі. Урад быццам прыступіў да папраўы палажэньня моладзі і сялян, на вёсцы аднак пакульшто яе ня відаць. Праўда, чуем мы аб зьніжцы аплаты за радыё, але што з гэтага, калі мы радыё паставіць ня можам і яно для нас зьяўляецца чужым, незразумелым.

Астаецца нам самым дбаць аб палепшаньні свае долі і да гэтага палепшаньня йсці сваімі беларускімі шляхамі, не зварочваючы ўвагі на ўсялякія чужыя лёзунгі, пашыраючы беларускія часапісы, нацыянальнае ўсьведамленьне ды ўспамагаючы беларускія арганізацыі. *Чівелахім.*

## З ВЫДАВЕЦКАЙ НІВЫ

**„Першыя зернядкі“ — беларуская граматка для хатняга навучаньня.** — Недахоп у нас беларускіх школ, а ў сувязі з гэтым панаваньне цемры, змусіла лепшых нашых працаўнікоў на ніве народнай культуры і асьветы ськіраваць увагу на хатняе навучаньне: каб у сваей роднай хаце, у сваей сям'і магло беларускае дзіцё, а то й старэйшыя, здабываць сабе асьвету. Ня было аднак у гэтай галіне адпаведнага падручніка, й таму праца не давала так памысных вынікаў, якіх можна было-б спадзявацца.

Але вось у палове красавіка сёлета выйшаў у Вільні беларускі лемантар „Першыя зернядкі“ — беларуская граматка для хатняга навучаньня, з многімі малюнкамі бел. мастакоў: У. Паўлюкоўскага, Я. Драздовіча, М. Васілеўскага і інш., у прыгожай вокладцы студ. О. Пракапавічанкі. Аўтарам лемантара зьяўляецца знаны пэдагог С. Паўловіч. Выдавец Я. Малецкі. Цана аднаго экзэмпляра з перасылкай усяго 50 гр., а пры закупе большай колькасьці зьніжка да 35 гр. Галоўны склад—Бел. Кнігарня „Пагоня“: Wilno, Zavalnaja 1.

Танная, мілая і эстэтычная звонку гэтая кніжка мае 96 бачын фармату вялікае васьмёркі. Зьмест яе багаты, матар'ял дабраны добра і ўложаны зручна. Ілюстрацыя таксама багатая.

Цэласьць кніжкі падзелена на дзьве часьці.

Першая частка пасьвячана вывучэньню літар. Тут аўтар выбраў мэтад сынтэтычны: пазнаёміўшыся з літарамі,

*Рэдагуе Калегія.*

**Выдаюць: Я. Багдановіч і А. Шутовіч. Рэдактар Я. Найдзюк.**

вучань, — памінаючы чытаньне складамі — пераходзіць адразу да чытаньня зложаных з гэтых літараў цэлых слоў.

Другая частка пасьвячана практыкаваньню чытаньня. Увесь матар‘ял падзелены на такія разьдзелы: Чытанка для дзяцей. Беларусь і Беларусы. Прырода і праца на Беларусі. Культура і поступ. Вучэньне — сьвет, нявучэньне — цьма. Зьмешчана тут шмат вершаў беларускіх клясыкаў і маладзейшых паэтаў. Сустракаем тут творы Купалы, Коласа, Гаруна, Багдановіча, Буйлы, Машары, Танка, Бярозкі, Васілька і шмат іншых аўтараў. Апрача вершаў, нямала ёсьць прозаічных расказаў, народных прыказак, гульняў і загадак.

Дух лемантара народна-беларускі, будуючы і паступовы. Нажаль, у лемантары можна спаткаць карэктарскія памылкі і з боку мовы. Непадпісаны так-жа малюнак руінаў крэўскага замку. Агулам аднак кніжка робіць вельмі добрае ўражаньне і трэба сказаць, што „Першыя зерняткі“ гэта сапраўды аружжа беларусаў у барацьбе з цемрай і таму гэта кніжка павінна быць у кожнай беларускай хаце, як зарука сьвятлейшай і лепшай будучыні ўсяго беларускага народу.

*А. Бабышка.*

*Міхась Машара* — **Чорт з падпечча**. Сцэны з сялянскага жыцьця. Вільня 1936 г. Бач. 24. Фар. $16^0$. Цана 40 гр.

„Чорт з падпечча“ гэта камэдыя, у якой Машара паказвае нам бытавыя сцэны з сялянскага жыцьця. Падобныя творы мы ў сваёй літаратуры ўжо маем, а ўспомнены твор гэну галіну нашае літаратуры яшчэ ўзбагачвае. Разумеецца, гэты твор Машараў не найнавейшы. Сяньня ад Машары мы можам вымагаць больш. Бо калі і сьмяяцца, дык трэба ведаць з чаго сьмяяцца. Вёска сяньня сьмяецца сьмехам не мяшчанскай камэдыі, якія пішуцца „для вёскі“, ці дзеля шчакатаньня пят нябожчыку готалеўскай каробачкі.

Сяньняшняя вёска ня толькі з-пад печы, але із вуліцы гоніць другіх чарцей, ад якіх аж тошна жывецца і аб гэтай нячыстай сіле трэба было-б напісаць. Вось-жа пажадана, каб гэткую камэдыю з сялянскага жыцьця напісаў М. Машара.

*М. Танк.*

Грам. М. Танк у сваёй кароткай крытыцы сцэнічнага твору М. Машары п. н. „Чорт з падпечча“ падыйшоў да яго з боку ідэолёгічнага. Разглядаючы аднак гэны твор крыху шырэй, трэба сказаць, што ён надаецца на вясковую сцэну, не пазбаўлены гумару, акцыі, здаровае павучальнае маральнае думкі і напэўна здабудзе сабе папулярнасьць сярод шырокіх масаў. Трэба пры тым зазначыць, што М. Машара нядаўна напісаў драму „Лёгкі хлеб“, якая ўжо друкуецца ў „Б. Крыніцы“ і у каторай між іншым закранаюцца сучасныя цяжкія перажываньні беларускае моладзі. — Рэд.

**„Сьветач Беларусі“** непэрыядычны царкоўна-нацыянальны орган праваслаўных беларусаў выйшаў пасьля доўгага перарыву, як № 1(9) за м-ц красавік 1936 г. Увесь гэты нумар „Сьв. Беларусі“ пасьвячаны справам царкоўным. Выдаўцом яго зьяўляецца Цэнтр. Бел. Праваслаўны К-т у Вільні.

## USIAČYNA

— 14.IV sioleta ŭ Lvovie adbyłasia vialikaja demanstracyja biezrabotnych, u časie jakoje pry aružnaj sutyčcy palicyi z biezrabotnymi byŭ ranieny, a paśla pamior biezrabotny U. Kazak. 16.IV adbylisia pachoviny U. Kazaka, jakija pieramianilisia ŭ vialikuju demanstracyju, pryčym dajšło jznoŭ da kryvavych aružnych sutyčak miž palicyjaj z adnaho boku, a kala 12-citysiačnaj rabotnickaj masaj — z druhoha boku. U časie hetych sutyčak akazałasia pavodle „Kur. War."11 asob zabitych, a 120 ranienych. Lvoŭski „Dzien. Polski", piša, što demanstranty pa darozie bili šyby ŭ roznych handlovych pradpryjemstvach, pryvatnych kvaterach, muzei, teatry, a navat i ŭ kaściele. Niekatoryja sklapy byli byccam ahrableny. Na vulicach rabotniki rabili barykady i pieraviarnuli dziela hetaha 2 tramvai. Usio zabureńnie paŭstała byccam dziela taho, što palicyja nie dazvalała chavać cieła U. Kazaka na tych mohiłkach, na jakich chacieli rabotniki. Mima ŭsiaho. rabotniki ŭsio-ž pachavali U. Kazaka tam, dzie jany chacieli. Paśla ŭsiaho hetaha palicyja aryštavała ŭ Lvovie 661 asobu, z jakich častka vysłana ŭžo ŭ Berezu Kartuskuju.

—Apošnim časam zaŭvažvajecca ŭ Polščy pieratasoŭka-źmiena ŭ kruhoch,padtrymlivajučych urad. Chodziać navat čutki ab niekatorych źmienach.

— 15.IV siol. pamior u Pekinie (u Kitai) dr. E. Amende, arhanizatar i hieneralny sakratar Mižnarodnaha Kanhresu Nacyjanalnych Mienšaściaŭ u Eŭropie. Dr. E. Amende z pachodžańnia byŭ niemcam z Estonii. U svaich častych padarožach pa śviecie adviedvaŭ jon niaraz Biełaruś, znaŭ našaje bieł. žyćcio i našyja narodnyja imknieńni i šmat u čym pamahaŭ Biełarusam vychodzić na šyrejšuju mižnarodnuju arenu.

— U Hišpanii jznoŭ niespakojna. Za apošnija časy pry roznych zabureńniach zabita tam 82 asoby, a raniena 300 i spalena 68 kaściołaŭ.

— Italijancy ŭ Abisynii padchodziać da stalicy hetaha kraju, Addis-Abeby, biednyja abisyncy adnak dalej zaŭziata baroniacca. A ŭ Lizie Narodaŭ usio havorać i havorać ab spakoi...

— U SSRR z voli Stalina i vyžšych savieckich uładaŭ, Kamunistyčnaja Arhanizacyja Moładzi (Kamsamoł) pieratvorana na arhanizacyju moładzi biespartyjnuju. Palityki kažuć, što saviecki ŭrad, jaki składajecca sa starych balšavikoŭ, zrabiŭ heta sa strachu pierad maładym pakaleńniem, katoraje choča dabracca da ŭłady. U časie Vialikodnych śviat adbyŭsia ŭ Maskvie 10-ty Suśvietny Kanhres Kamsamołu, na jakim, pamiž inšym, zaćvierdžany byŭ statut „novaha biespartyjnaha kamsamołu", pavodle jakoha ciapier „kamsamoł" maje zajmacca tolki kulturnaj, prapahandovaj akcyjaj, sportam i pryspasableńniem vajskovym i nia moža rabić nijakaha ŭpłyvu na palityku. Heta źmiena statutu vyklikała byccam vialikaje niezadavaleńnie siarod kamunistyčnaj moładzi.

## PAŠTOVAJA SKRYNKA

A. Č e m i e r u: Artykuł atrymali, dziakujem, nadrukujem u adnym z nastupnych numaroŭ.

I k a b u: Karespandencyju atrymali,dziakujem i, jak bačycie, drukujem.

A d: Atrymali, dziakujem, nadrukujem.

M—č: Vašu karespandencyju ab viečarynie ŭ v. Abytacyja nadrukujem u nastupnym numary.

L. B u r a ł o m u: Jak bačycie, adzin z Vašych vieršaŭ drukujem, choć z pryčyn cenzuralnych,musili my jaho mocna „čyścić".

S. C h m a r y: Vieršy atrymali, słabavatyja, u mieru adnak mahčymaściaŭ budziem drukavać.

K. „Historyju biełaruskich skaŭtaŭ" nadrukujem, jak tolki budzie ŭ „Šl. Mol." krychu svabadniej z miescam.

A. Ž u k u: Atrymali, ščyra dziakujem.

M o ł a d z i v. A m i n a ŭ c y: Vašaje piśmo ŭ spravie deklaracyi pravoŭ maładoha pakaleńnia Polščy, raźminułasia ŭ darozie z № 3 „Šlachu Moładzi" vysłanym Vam, jano adnak faktyčna pakryvajecca z našym stanoviščam. Z drukam jaho my pakulšto ŭstrymlivajemsia.